

# Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Крымінальная справа былога старшыні Быхаўскага райвыканкаму Генадзя Гунёва, якога арыштавалі ў лістападзе мінулага году, перададзена ў суд. Яго абвінавачваюць у "злоўжываньні ўладай і службовым становішчам". Мне, праўда, падаецца, што гэты артыкул можна было б прымяніць у нас да шмат якіх пасадавых асобаў. Але ж не пашанцавала пакуль Гунёву.

Энэргетычная камісія вобласьці днямі разьбіралася з тым, хто і колькі спажывае электрычнасьці. Канешне, хочацца, каб спажывалі менш, эканомна і эфэктыўна. Як ва ўсім цывілізаваным сьвеце. Чыноўнікі нават абмеркавалі канцэпцыю энэргазьберажэньня. Намесьнік старшыні аблвыканкаму Д.Сівіцкі нават заявіў, што прадпрыемствы "зьядаюць" электрычнасьці ў некалькі разоў больш, чым гэта патрэбна для вытворчасьці. Не ад разбэшчанасьці, вядома, а ад недасканаласьці гэтай самай вытворчасьці. Пра гэта на камісіі гаворкі не было: эканомьце – і ўсё тут!

Магілёўскі гарсавет вырашыў зьменшыць на дзьве траціны падатак на нерухомасьць. Гэта сталася вынікам амаль крыку "SOS" з боку вытворцаў. Падаткаў ім даводзіцца плаціць процьму. Даўно вытворцы думаюць не пра прыбыткі, а пра тое, каб хоць неяк утрымацца "на плаву". Гарадзкія дэпутаты гэтым разам пачулі вытворчыя стогны. Аднак усё гэта ня больш, чым "пажарныя" меры. Сапраўднай эканамічнай стратэгіі ў краіне як не было, так і няма. Расейскі байкавы клясык (які сьпісаў, праўда, гэта ў Лафантэна) называў такую сытуацыю Трышкіным кафтанам. У мяне на языку верціцца іншае імя. Здагадайцеся, якое...

Магілёўская міліцыя затрымала 22-гадовую дзяўчыну, якая спрабавала збыць 12 фальшывых купюраў вартасьцю па 5 мільёнаў беларускіх рублёў і адну 100-даляравую падробку. Усе "грошы" былі надрукаваныя з дапамогаю каляровага прынтэра. Ня будзе залішнім, калі рызыкну даць чытачам простую параду: не мяняйце грошы на вуліцы. Курсы валютныя амаль аднолькавыя зь ценявымі. Затое рызыкі – ніякай. Усе ж мы ведаем, як дастаюцца грошы.

Вядомае арэнднае прадпрыемства (АП) "Інвэстдом" рашэньнем абласнога гападарчага суда прызнанае банкрутам. Запазычанасьць АП склала 135 мільёнаў дэнамінаваных рублёў, прадпрыемства было ўжо ня ў стане ані плаціць па крэдытах, ані выплочваць людзям заробкі. Лёс "Інвэстдома", на жаль, характэрны. Прадпрыемства выйшла са сфэры дзяржаўнай падтрымкі, але безь яе цяперашняя будаўнічая галіна цалкам няжыцьцяздольная. Ды ці толькі будаўнічая?!

Днямі сэсія аблсавету нарэшце зацьвердзіла Міхаіла Дражына на ягонай пасадзе. Ці тое забыліся дэпутаты зрабіць гэта раней (старшынём выканкаму чалавек працуе ці ня год), ці палічылі гэта пустой фармальнасьцю пасьля таго, як старшыню накіраваў сюды ня хто-небудзь, а сам Лукашэнка. Цікава таксама, чаго на шалях закону важаць рашэньні, якія пасьпеў напрымаць "незацьверджаны" своечасова старшыня выканкаму. А хутчэй за ўсё і гэта драбяза, ня вартая ўвагі. Такія зараз парадкі ў нашай самай дэмакратычнай, самай канстытуцыйнай сыстэме.

Старшыня Магілёўскага гарвыканкама Міхаіл Красноў правёў так званы Дзень вэтэрана. Любіць наша начальства гэткія аўдыторыі: вэтэраны, выхаваныя ўсім папярэднім цяжкім жыцьцём, заўсёды падтрымліваць "генэральную лінію", з "разуменьнем" ставяцца да цяжкасьцяў бягучых. Абы не было, як гаворыцца, вайны. І ў начальства ёсьць хвіліна перадыху: аўдыторыя прымае ўсе тлумачэньні за чыстую манэту: апазыцыянэры вінаватыя, расейскі крызыс, НАТО... Нават няёмка на такім тле распавядаць дзяржаўнаму чалавеку пра свае хваробы і нястачы. Вось і сканчаецца ўсё палітінфармацыяй. Забыўся, даруйце – просьбай сканчаецца да вэтэранаў: больш актыўна ўдзельнічаць у патрыятычным выхаваньні моладзі.

*Да сустрэчы.*
*Сымон Глазштэйн*

11 КРАСАВІКА – МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ ВЯЗЬНЯЎ ФАШЫЗМУ

## Спачатку нацысцкі канцлягер, а пазьней – спэцлягер НКВД

Нямецкія навукоўцы ўжо даўно цікавяцца гісторыяй савецкіх спэцлягераў, што існавалі на тэрыторыі ўсходніх земляў Нямеччыны. Пасьля заканчэньня вайны савецкая акупацыйная ўлада досыць "эфэктыўна" падыйшла да выкарыстаньня былых нацысцкіх канцлягераў ва ўсходняй частцы Нямеччыны. Яны былі ператвораныя ў спэцлягеры НКВД. Цягам усяго існаваньня ГДР гэта факт замоўчваўся. Цяпер жа ў музэі, што знаходзіцца на тэрыторыі найвялікшага былога спэцлягеру Загсэнгаўзэн, ёсьць працоўная група, якая займаецца ўзнаўленьнем пасваеннае гісторыі савецкіх спэцлягераў.

Пераважная колькасьць іх была засяроджаная на зямлі Брандэнбург. Тут іх налічвалася ажно сем. Каб узнавіць поўную карціну таго часу, нямецкія навукоўцы праводзяць шырокія апытаньні сьведкаў, актыўна вывучаюць архівы ў Нямеччыне ды Расеі, сярод якіх таксама й архіў КГБ у Маскве.

Лягер Загсэнгаўзэн быў утвораны ў 1945-м годзе. Да 1950-га году лягер выкарыстоўваўся савецкім акупацыйным кіраўніцтвам, так бы мовіць, "паводле прызначэньня". Вядомы пад назовам "спэцлягер №7", ён стаўся свайго роду замежнай філіяй архіпэлягу ГУЛАГ. Спачатку тут былі зьняволеныя сябры нацысцкае партыі, супрацоўнікі SS ды вэрмахту, моладзь з фармаваньня "Werwolf", службоўцы, адвакаты, прадпрымальнікі... Пазьней сярод вязьняў Загсэнгаўзэну зьявіліся тыя, каго зьвінавацілі ў супраціве савецкай акупацыйнай уладзе ці плянам Ульбрыхта. Сярод вязьняў былі й прадстаўнікі ўсіх усходненямецкіх апазыцыйных партыяў – ад хрысьціянаў-дэмакратаў і лібэралаў да сацыял-дэмакратаў.

Цягам пяці гадоў цераз адзін толькі Загсэнгаўзэн прайшлі каля 60 тысячаў чалавек, 13 тысяч зь якіх так і не перажылі таго зьняволеньня. За часамі камуністычнага рэжыму ў Загсэнгаўзэне быў створаны мэмарыяльны комплекс ды музэй, які нагадваў пра ўчыненыя тут нацыстамі злачынствы, але, зразумела ж, ніводнага слоўца не было сказана пра яго сумную паваенную гісторыю.

**Віталь БУГАЁЎ**





РОЗГАЛАС ДНЯ ВОЛІ

## Ці варта вучыць іншых

*У мінулым нумары "ТМ" былі надрукаваныя нататкі Алеся Асіпцова, у якіх ён выказаў свае меркаваньні, у прыватнасьці, наконт ня надта ўдалай арганізацыі сьвяткаваньня Дня Волі ў абласным цэнтры. У сувязі з гэтай публікацыяй рэдакцыя атрымала ліст, які друкуецца ніжэй.*

Сьвяточныя мерапрыемствы, што адбыліся ў горадзе Магілёве й вобласьці, знайшлі ўжо дастатковае адлюстраваньне як у мясцовых, так і цэнтральных СМІ. І невыпадкова. Менавіта ў Гарадзенскай, Берасьцейскай, Магілёўскай вобласьцях гэтыя мерапрыемствы прайшлі найбольш шырока. Зразумела, Усходні рэгіён – гэта не Захад Беларусі, і наладзіць масавыя акцыі тут куды больш складана. Для гэтага патрабуецца значна большая арганізацыйная праца й больш сілаў. На жаль, сілы гэтыя недастатковыя ды не зьяднаныя.

Так, нягледзячы на стварэньне Аргкамітэту па сьвяткаваньні Дня Волі й заклікі да больш актыўнай сумеснай працы, шэраг вядомых у горадзе палітычных ды грамадзкіх арганізацыяў фактычна ўхіліўся ад удзелу ў падрыхтоўцы сьвяточных мерапрыемстваў. Недастатковасьць жа рэсурсаў іншых арганізацыяў не дазволіла правесьці іх у поўным аб'ёме. Тым ня менш і ў нас было зроблена ўсё магчымае, каб годна адзначыць вялікае нацыянальнае сьвята.

Па-першае, апроч масавых акцыяў былі арганізаваныя й такія мерапрыемствы, прысьвячоныя Дню Волі, як сэмінары, публічныя лекцыі, дыскусіі, спартыўныя і інтэлектуальныя гульні для моладзі ды іншае.

Па-другое, упершыню сьвята Дня Волі было адзначанае ўва многіх іншых гарадах Магілёўшчыны – Шклове, Мсьціславе, Бабруйску, Горках ды інш.

Па-трэцяе, выразна разумеючы, што ў атмасфэры палітычнай гістэрыі й запалохваньняў, якія ажыцьцяўляюцца ўладамі ў Беларусі, масавага ўдзелу грамадзянаў у акцыях чакаць нельга, арганізатары асаблівую ўвагу зьвярнулі на працу з сродкамі масавай інфармацыі. Як вынік, практычна ўсе вядучыя СМІ абласнога цэнтру, за выключэньнем некалькіх афіцыйных газэтаў, далі інфармацыю пра Дзень Волі і падзеях, зьвязаных з гэтай славутаю датай, як напярэдадні, так і пасьля 25 сакавіка. Адначасна на працягу 7-10 дзён у горадзе былі шырока задзейнічаныя сродкі вулічнай агітацыі. І гэта нягледзячы на незаконныя затрыманьні і штрафы, на супрацьдзеяньне гарадзкіх службаў і іхных добраахвотнікаў. Але агітацыйных матэрыялаў усё ж было недастаткова.

Тым ня менш 25 сакавіка на пляцы Арджанікідзэ ў Магілёве сабралася значна больш грамадзянаў, чым у мінулыя гады. Не дапамаглі ні пракурорскія папярэджаньні, ні ўзмоцненыя АМАПам сілы міліцыі, ні праваахоўныя дзеяньні чыноўнікаў зь мясцовай "вэртыкалі". Дэманстрацыя і мітынг адбыліся. Няхай і не зусім так, як хацелася арганізатарам, але й ня так, як таго дамагаліся ўлады.

З разгорнутымі бел-чырвона-белымі сьцягамі й воклічамі "Жыве Беларусь" калёна прайшла ўвесь свой шлях. Вытрымка й дакладныя дзеяньні ўдзельнікаў дэманстрацыі дазволілі пры гэтым пазьбегнуць сутыкненьняў з падрыхтаванымі спэцпадразьдзяленьнямі міліцыі. Сьвята людзей не было сапсаванае. Арганізавана і сьвяточна прайшоў і мітынг. Выступоўцы зьмянялі адзін аднаго. Кожны казаў пра тое, што думаў і адчуваў. Узьнёслыя словы пра Бацькаўшчыну, яе славутую гісторыю зьмяняліся больш празаічнымі выступамі пра сёньняшнія праблемы. Але панаваў сьвяточны настрой. І ствараўся ён ня толькі словамі выступоўцаў, але й беларускаю музыкай і песьнямі, шматлікімі транспарантамі, сьцягамі і нават салютамі.

P.S. На гэтым фоне прыкра выглядаюць намаганьні па ганьбаваньні адбыўшыхся мерапрыемстваў з боку некаторых нашых "урапатрыётаў". Нядрэнна прыладкаваўшыся ў апошні час да аднаго зь "цёплых" мейсцаў і рашуча адкінуўшы свае ранейшыя апазыцыйныя заляцаньні, яны самаўпэўнена вучаць ужо ўсіх, як трэба змагацца за дэмакратыю. Трэба аднак заўважыць, што дзякуючы гэтым патрыятычным намаганьням у горадзе было сарвана правядзеньне шэрагу мерапрыемстваў, прысьвечаных Дню Волі, упустую змарнаваныя й без таго абмежаваныя сродкі. Але ж вінаватыя ў гэтым чамусьці нейкія іншыя небаракі.

Калі ж гаварыць проста, то несамакрытычнасьць, фанабэрыстасьць ды бестактоўнасьць сталі адметнаю рысай адной з нашых, як быццам, дэмакратычных арганізацыяў. І стыль гэты сьцьвярджаецца вельмі агрэсыўна. Дзіўна, але адначасова гэта спалучаецца і з прэтэнзіямі на асаблівую дэмакратычнасьць і нейкую выключнасьць. Выключнасьць тут несумненна ёсьць. Але ці не з разраду яна тых, якая характэрная для асобаў, што знайшлі сваё запаветнае мейсца – мейсца... ля "кармушкі".

***Гарадзкая арганізацыя БНФ (В.Вячоркі)***



# Міт аб усенароднай падтрымцы бальшавікоў

*Напачатку гэтага году ў Магілёўскім дзяржаўным унівэрсытэце імя А.Куляшова па ініцыятыве мясцовых "патрыётаў" было наладжанае абмеркаваньне новых школьных праграмаў і падручнікаў, што былі выдадзеныя за апошнія некалькі год. Падчас дыскусіі адзін зь лідэраў гарадзкіх камуністаў Дайнека выказаў думку, што развал і ўсе нашы непрыемнасьці распачаліся з таго моманту, калі разьвянчалі культ Сталіна. Гэтым парушылі адзінадушша, веру й адзінства...*

*Колькі год таму ў "Тыднёвіку Магілёўскім" і "Нашай Ніве" я апублікаваў шэраг фактаў беларускага ўзброенага супраціву сталінскаму рэжыму. Цяпер вырашыў зьвярнуцца да пытаньня: "А ці была адзінадушная падтрымка дзеяньняў камуністычных уладаў з боку тых, хто ня браў зброю ў другой палове 20-х гадоў?" Адказ на гэтае пытаньне можна знайсьці ў архівах, аналізуючы "зусім сакрэтныя інфармацыйныя зводкі аддзелаў ГПУ". Нагадаю, што яны складаліся на той час у акругах за пэўныя пэрыяды, і адсылаліся ў Менск у ГПУ Беларусі. Мною былі прааналізаваныя зводкі Магілёўскага акруговага аддзелу ГПУ за 1926-28г.г. Яны – гэта 10-30 аркушаў папіроснай паперы з тэкстам, аддрукаваным праз адзін інтэрвал. У іх утрымліваюцца факты падтрымкі альбо крытыкі дзеяньняў уладаў. У асноўным (95%) факты негатыўнага ўспрыняцьця камуністычнай рэчаіснасьці. Пасьля прывядзеньня факту коратка пазначаныя прынятыя на той момант меры рэагаваньня: "установлена наблюдзеньне", "вядзецца распрацоўка сувязяў", а то й проста – "прыняты меры".*

1926-1928 гады – гэта пэрыяд часовай і частковай лібэралізацыі ў эканоміцы і грамадзкім жыцьці БССР. Яшчэ канчаткова ня быў сфармаваны таталітарны рэжым, таму людзі яшчэ не палохаліся выказваць свае думкі. Камуністычныя ўлады наступным чынам практыкавалі падтрымку сваіх дзеяньняў з боку масаў – гэтая падтрымка выказвалася на агульных сходах, зьездах, і г.д. Усе дзеяньні як бы рабіліся на запатрабаваньне працоўных: закрыцьцё цэркваў, зьнішчэньне абразоў, адмена ў якасьці вольных ад працы дзён рэлігійных сьвятаў, асуджэньне альбо падтрымка тых ці іншых падзеяў у замежжы і г.д. Вядома, хто рыхтаваў рэзалюцыі сходаў і як яны прымаліся.

А што гаварылі людзі паміж сабой? На тых жа сходах ці ў побыце, на прадпрыемствах. Асабліва рабочыя, якія на думку пэўных "вучоных-патрыётаў" зьяўляліся грунтам камуністычнай сыстэмы. Органы ГПУ зафіксавалі сотні, тысячы фактаў незадаволенасьці дзеяньнямі ўладаў і камуністычнай сыстэмы. Між іх была незадаволенасьць нізкімі заробкамі на прадпрыемствах з боку рабочых і ў школах з боку настаўнікаў. Так, інфармазводкі ГПУ за жнівень 1926 году і травень 1927-га зафіксавалі незадавальненьне рабочых нізкімі заробкамі на абутковай фабрыцы і заводзе "Пралетарый", на фабрыцы "Спартак" (Шклоў), заводах "Зара", "Зьвязда" і іншых. Рабочыя казалі: "... кошты на прадукты на рынку й іншыя тавары павялічыліся ў два разы, а зарплата стаіць на адным месцы".

Як цяпер, так і тады несвоечасова выплочвалі заробленыя грошы: "Спазьненьне выдачы зарплаты за травень на некалькі дзён на цагляным заводзе №2 суправаджалася антысавецкім выступленьнем трох рабочых, якія казалі, што "мы на працягу пяці месяцаў галадалі, а цяпер нам затрымліваюць зарплату". Сяляне таксама выказвалі сваю незадаволенасьць: "недахопам харчаваньня... семена і ссуду ў цэлым шэрагу выпадкаў зьелі... адсутнасьцю кармоў для жывёлы, разьбіралі салому з дахаў... цяжкасьцямі з атрыманьнем крэдытаў, коштамі на семянны тавар... серадлякі незадаволены сельгаспадаткам... затрымкамі ў землеўладкаваньні...". І наогул сяляне "...вялі размовы аб неабходнасьці зьдзейсьніць другую рэвалюцыю".

Больш паловы негатыўных фактаў складаюць выказваньні, на думку ГПУ, "небясьпечныя" для самога існаваньня камуністычнай улады. Іх шмат. Прывяду найбольш характэрныя (у перакладзе на беларускую мову) з захаваньнем асаблівасьцяў мовы.

"Інфармзводка на 20.11.1926г. (выказваньні рабочых друкарні ў размовах і на сумесным пасяджэньні з падшэфнай вайсковай часткай). ...партыя не дае рабочым магчымасьці выбіраць у свае прафсаюзныя органы таго, каго жадаюць рабочыя, а насаджаюць партыйцаў... савецкая дзяржава бедная таму, што партыя паўсюль насаджвае загадчыкамі партыйцаў, не разумеючых нічога ў справе і толькі атрымоўваючых вялікія заробкі, адсюль нашы прадпрыемствы толькі дэфіцытныя".

"Інфармзводка на 17.08.1926г. (выказваньні наконт падзеяў на XIV партзьезьдзе і пазыцыі Ленінградзкай арганізацыі). ...некалькі рабочых друкарні выказвалі думку, што ў хуткім часе будзе ў Расеі пераварот, таму што камуністы ўжо падзяліліся на два лягеры і ладзяць адзін ад аднаго тайныя сходы. Рабочы друкарні Стрэльцын указаў: нават калі цяпер пішуць, што поўная свабода слова і друку, але на самой справе гэтага няма, нават для камуністаў, пры чым заўважыў, што член ЦК Гесін ня быў згодны з ЦК, дык яго зараз жа выкінулі з ЦК...". (Выказваньні наконт страйку ў Англіі і дапамогі ангельскім рабочым). ...На заводзе "Зьвязда" рабочыя Клімаў і Дзялячка ў прысутнасьці іншых рабочых выказваліся, што "улада давіць рабочых і што яна не адрозьніваецца ад старых царскіх міністраў". Рабочыя таго ж завода Сьвіст, Мураўёў, Аверка выказаліся ў прысутнасьці іншых рабочых, што "ў Расеі цяпер і так малы ўраджай, а бальшавікі адпраўляюць хлеб за мяжу за пазыкі і дапамогу замежным рабочым, адсюль кошты на хлеб у нас будуць павялічвацца, а расплочвацца нам прыйдзецца...". (Выказваньні наконт пераварота Пілсудзкага ў Польшчы). ...механік таго ж завода паляк Войцаль у размове зь іншымі рабочымі ўсхваляў Пілсудзкага, указаў, што "той заўсёды ў Польшчы лепшыя парадкі, чым у Расеі, што Пілсудзкі большы сацыяліст, чым бальшавікі".

"Інфармзводка на 08.01.1926г. На заводзе "Зорка" рабочы Аўдзееў вёў сярод рабочых агітацыю, што стары царскі час і наогул жыцьцё было лепей... На адбыўшымся сходзе рабочых 20.12.25г. па пытаньню аб Усебеларускім Прафсаюзным зьезьдзе, у спрэчках выступаў служачы... Радушкевіч, які заявіў, што "партыя высоўвае на адказныя пасады камуністаў, а тыя абкрадаюць дзяржаву, і казаў, што калі чырвонаармеец скрадзе 5 пудоў кукурузы, дык яго расстрэльваюць, а калі член партыі скрадзе грошы, дык падчас суда прымаюць пад увагу яго розныя заслугі і яго апраўдваюць...". Калі была прапанаваная рэзалюцыя па дакладу, Радушкевіч прапанаваў дадатак у рэзалюцыю ад неабходнасьці, каб партыя рабіла справаздачу перад беспартыйнымі аб сваёй працы, бо яна за час свайго існаваньня перад рабочымі сябе не апраўдала і што партыя – гэта тое ж самае дваранства... Падчас яго выступу вакол яго згрупаваліся рабочыя і падтрымлівалі яго прапановы...".

"Інфармзводка на 05.05.1927г. (выказваньні рабочых на абутковай фабрыцы і заводзе "Пралетарый"). ...што савецкая ўлада і КП(б)Б толькі лічацца абаронцамі інтарэсаў рабочых, а на самой справе яны паляпшаюць толькі стан камуністаў, якім прадастаўляюць усемагчымыя прывілеі...".

Паўтаруся – такіх фактаў шмат. Не засталіся ўбаку і сяляне.

"Інфармзводка на 17.08.26г. (Магілёўскі раён, в.Семукачы). ...факт прапановаў сялян з указаньнем аб неабходнасьці стварэньня "сялянскіх саюзаў" для таго, каб дамовіцца з рабочымі аб адзіных дзеяньнях супраць рэжыма ўлады, якая не рабоча-сялянская".

"Інфармзводка за жнівень 1926г. ...Выяўленьню былых эсэраў, у справаздачны час, апаратам ГПУ было ўдзеленая больш значная ўвага. Да працы эсэраў мы адносім устаноўленыя выпадкі ў пэрыяд выбарчай кампаніі сельсаветаў: патрабаваньні арганізацыі сялянскіх саюзаў у Лупалаўскім і Шклоўскім раёнах...".



Інтэлігенцыя Магілёўшчыны, да якой адносіліся настаўнікі школаў, больш абуралася згортваньнем дэмакратызацыі ў грамадзкім жыцьці. І па меры магчымасьці змагалася за яе захаваньне.

"Інфармзводка на 01.12.1926г. ...Падчас адкрытай акруговай канфэрэнцыі Рабасьветы, член праўленьня саюза Рабасьветы прапанаваў ад імя фракцыі (камуністаў) саюза свой сьпіс у члены Прэзыдыюма канфэрэнцыі. Настаўнікі ў залі захваляваліся і прагучалі галасы "а дзе дэмакратызм, самі прызначым каго патрэбна", больш за ўсіх крычаў шкраб Гарадзішчанскай школы Лявіцкі, яму падтакваў шкраб 10-й школы г.Магілёва Кулакоў. Настаўнік з Лупалаўскага раёну Бурбо, седзячы, казаў: "Дэмакратызацыі для настаўнікаў ніколі ня будзе, бо партыя паўсюль і заўжды праводзіць каго захоча, вось напрыклад у нас, на раённай канфэрэнцыі, падчас выбараў у мясцовы камітэт кандыдатуру Буднікава – камуніста выставіў старшыня саюза Рабасьветы Яфімаў. Настаўнікі не жадалі выбіраць яго ў камітэт, дык Яфімаў ставіў яго кандыдатуру на галасаваньне пяць разоў – да таго часу, пакуль не атрымаў жаданай колькасьці галасоў". Тое ж было,назіралася і на Магілёўскай раённай канфэрэнцыі – казала настаўніца Бажкова Марыя: "Канфэрэнцыя спачатку ішла добра, але калі справа дайшла да выбараў у мясцовы камітэт, дык тут адбыўся скандал; фракцыя КПБ дала сьпіс сваіх кандыдатаў у камітэт, адначасова быў пададзены другі сьпіс ад настаўнікаў. Старшынствуючы сакратар райкаму КП(б)Б Якаўлеў заявіў: "Мы ня будзем аб'яўляць другі сьпіс, ён не падпісаны". Амаль усе настаўнікі адказалі хорам "мы ўсе выстаўлялі гэты сьпіс"... на акруговай канфэрэнцыі выступіў сакратар Бялыніцкага мясцовага камітэта Бакенгаўз, які сказаў: "На 14-м партзьезьдзе многа казалася аб дэмакратызме, аб свабодных выбарах, а ў нас да сёньняшняга часу яшчэ аўтаматычна праводзяць па сваіх сьпісах кандыдатаў на выбарныя пасады, гэтым у масаў адымаюць ініцыятыву і адбіваюць ахвоту свабодна праводзіць выбары". ...пасьля заканчэньня канфэрэнцыі, падчас вячэры, настаўнікі казалі: "не далі нам гаварыць, затыкалі нам раты й мы самі баяліся гаварыць...".

За дэмакратычны лад жыцьця і свае інтарэсы змагаліся і рабочыя. Як я ўжо казаў, усе свае "кампаніі" камуністычныя ўлады праводзілі як бы па ініцыятыве працоўных сходаў. Але не заўжды ўсё было гладка. Адным з такіх яскравых прыкладаў зьяўляецца барацьба рабочых шклоўскай фабрыкі "Спартак" за сьвяткаваньне Вялікдня. Да 1930 года "асобнымі днямі адпачынку" лічыліся шэраг найбольш шанаваных у асяродзьдзі веруючых-працоўных рэлігійных сьвятаў. У канцы 20-х гадоў, змагаючыся з рэлігійнымі пачуцьцямі людзей, улады спрабавалі адмяніць гэтыя дні адпачынку, і першым крокам была спроба пераносу іх на іншыя дні.

"Інфармзводка на 05.05.1927г. У красавіку 1927 года на фабрыцы быў скліканы дэлегацкі сход. На павестцы дня адно пытаньне аб сьвяткаваньні Вялікдня, – каб сьвяткаваньня не было і перанесьці яго на 3 траўня. Яшчэ да дэлегацкага сходу адбыўся раскол, большасьць членаў фабкама стаяла за сьвяткаваньне Вялікдня. Калі на дэлегацкім сходзе старшыня фабкама т.Несьцяровіч прапанаваў каб перанесьці сьвяткаваньне вялікдня на 3 траўня, у гэты час сталі шумець, імкнучыся перашкодзіць казаць т.Несьцяровічу... Затым выступіў рабочы Сямён Сьвірыдэнка: "Калі наш фабкам большасьцю галасоў пастанавіў вялікдзень сьвяткаваць, дык ня можа быць размовы аб несьвяткаваньні такога, магчыма тут... вы і пастановіце не сьвяткаваць вялікдня, але мы ўсё роўна на гэтым не супакоімся і склічам канфэрэнцыю, на якой пастановім так, як гэта хочацца нам, большасьці". З натоўпу рабочых раздаліся крыкі: "так, правільна". Затым выступіў рабочы Сідараў Пётар: "Тут усе камуністы, мы ведаем, што яны нас толькі эксплуатуюць і жывуць за наш кошт, для нас усё роўна як пастановіць дэлегацкі сход, а сьвяткаваць мы будзем і на працу на вялікдзень ня пойдзем". Прысутныя крычалі: "правільна". Далей выступіў рабочы Чарняўскі Фёдар, які заявіў: "Мы ведаем камуністычныя, жыдоўскія задумы, яны хочуць нас адлучыць ад нашай веры, але мы сябе ў крыўду не дадзім"... (вынікі галасаваньня: за перанос вялікдня – 25, супраць – 19), падняўся шум і крыкі. Рабочыя Сідараў П. і Галавяшка, зьвярнуўшыся да рабочых, закрычалі "хадземце адсюль, мы на гэтым не супакоімся", і ўсе рабочыя, прысутныя на сходзе, пакінулі клюб... (праз некалькі дзён адбылася канфэрэнцыя, але ў знак пратэсту супраць зьмены павесткі дня, большасьць рабочых сыйшла і сарвала правядзеньне канфэрэнцыі)... сярод рабочых было шмат жадаючых работаць у вялікдзень, але ў сувязі з тым, што гэтыя рабочыя былі нізкай кваліфікацыі... фабрыка не працавала 24 і 25 красавіка... На канфэрэнцыі выступіў рабочы-каталік Сарока Станіслаў, які сказаў: "Мне асабіста ня важна тое, што я адсьвяткаваў свой вялікдзень, але мне важна тое, калі вялікдзень будуць сьвяткаваць усе веруючыя – як каталікі, так і рускія, нам у гэтых адносінах трэба злучыцца і ня слухаць розных... камуністаў".

Як бачым, ніякага адзінадушша ў ацэнцы дзеяньняў уладаў не было, адсюль высnова – не было і ўсеагульнай падтрымкі. Нават у гэтыя, спрыяльныя для бальшавіцкай улады гады, працягваўся і ўзброены супраціў.

Інфармацыйныя зводкі акруговых аддзелаў ГПУ, якія аналізавалі і сыстэматызавалі выказваньні рабочых, сялян, інтэлігенцыі, чакалі свайго часу. Зьбіралася інфармацыя, і калі спатрэбілася (30-я гады) – быў гатовы матэрыял для рэпрэсіяў. На заканчэньне – апошні прыклад.

У 1926 годзе жыхар вёскі Заціšша Шклоўскага раёна сп.Гіро апублікаваў артыкул пад назвай "Долго ли будут командовать мужиком" у газэце "Магілёўскі селянін", у якім крытыкаваў мясцовыя ўлады за парушэньні правоў грамадзянаў падчас перавыбараў у сельскі савет. Затым, абараняючы свой гонар, ён падаў у суд на сябра Шклоўскага райвыканкама Валенціновіча. Суд прыняў рашэньне на карысьць Гіро. Аднак дзеяньні сьвядомага селяніна на маглі, на думку камуністычных уладаў, застацца без пакараньня. І як здарылася нагода: "Інфармзводка на 21.07.1927г. ...арыштаваны Гіро зь вёскі Заціšша Шклоўскага раёна"...

**А.КРАСНАСЛАБОДЦАЎ**

*(Фота з БСЭ)*



## Акцыя жалобы і памяці

Як усім нам вядома, 2 красавіка ў нашага рэжыму было "вялікае сьвята" – Дзень яднаньня народаў Беларусі і Расеі. Напярэдадні па гораду было вывешана багата чырвона-зялёнага матэрыялу. Але ж былі людзі, якія з уласнай ініцыятывы сапраўды адзначылі гэты дзень...

Уздоўж вуліцы, што вядзе ад пляцу Арджанікідзэ да Савецкай плошчы, пачынаючы ад самага ранку 2-га красавіка, можна было заўважыць запаленыя сьвечкі. Гэтыя маленькія агеньчыкі былі замацаваныя ў плястмасавых бутэльках з сольлю. Як прынята лічыць, сьвечка сымбалізуе памяць ці жалобу. Запальваючы яе, мы сьведчым сваю павагу і памяць пра падзеі ці чалавека. Тое, што яна была замацаваная ў солі, таксама не было выпадковым. Соль, як вядома, не дае загаіцца ранам... Вы спытаеце: што ж гэтыя прадметы сымбалізавалі 2-га красавіка, у дзяржаўнае "сьвята яднаньня"?

Побач са сьвечкай можна было знайсьці й адказ. Там быў надпіс: "Змагарам за вольную Беларусь".

Як вядома, за камуністычнымі часамі ў будынку былога палаца Каніскага месьцілася ЧК, пра што сьведчыць замацаваная на муры белая мармуравая дошчачка. У гэтым будынку разьбіраліся з так званымі "врагами народа и партии". Часта гэтымі ворагамі аказваліся людзі, якія змагаліся за вольнасьць і незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны.

Па словах аднаго з ініцыятараў гэтай арыгінальнай і дарэчнай акцыі, сьвечкі, запаленыя ў солі ў дзень, калі нашую краіну гвалтоўна зацягнулі ў сёньняшні "саюз", мусілі яшчэ раз нагадаць пра тых, хто аддаў сваё жыцьцё за свабоду Беларусі. І кожны, хто лічыў гэтак жа, прыходзіў на працягу ўсяго дня да валу Каніскага і запальваў свой агеньчык памяці і павагі пакутнікам за волю.

*Дзяніс НОВІКАЎ*

## Фронтаўскія прыколкі

**Прэс-рэліз Магілёўскае гарадзкое арганізацыі Маладога Фронту**

Згодна даўняй традыцыі Магілёўскі Малады Фронт 1 красавіка ў чарговы раз папрыкалваўся з магілёўцаў. На гэты раз аб'ектам нашае ўвагі сталі мясцовыя прадпрымальнікі. Сутнасьць прыколу заключалася ў зборы ахвяраваньняў на прыжыцьцёвы помнік Лукашэнку. Усё гэта рабілася з сур'ёзнымі тварамі й на расейскай мове. Рэакцыя была зусім нечаканая. Да маладафронтаўцаў гэтак агрэсыўна яшчэ ніхто ня ставіўся!

Пасьля непрацяглага шоку, шырока адчыненых вачэй і ратоў найбольш частымі адказамі былі: "Иди-и атсюда-а-а!", "Кому-кому памятник? Шесть досок ему и крест, а не памятник!", "На поминки б дала, а большего он и не заслужил"... Цалкам сур'ёзна прапаноўвалі нам зьбіраць грошы на снайпэра, тады, маўляў, больш зьберацe. Але пасьля тлумачэньняў ды віншаваньня зь "Першым красавіка" пачынаўся гамэрычны рогат.

З усяго стадыёну "Спартак", дзе месьціцца рынак, знайшлося толькі два чалавекі, якія зрабілі ахвяраваньні на "святое дело", так што маладафронтаўцам не хапіла нават на піва (напрыканцы акцыі ўрна для збору сродкаў утрымлівала ўсяго ля трыццаці рублёў).

Пасьля акцыі акрамя ўражаньняў засталося адценьне суму ды зьдзіўленьне: як можа такое быць – усе супраць, а робяць тое, што ім скажуць.

*Дзяніс МЕЛЬЯНЦОЎ,*
*прэс-сакратар*

## Творчае раскрыцьцё зацікавіла моладзь

Напрыканцы першага месяца вясны, 31 сакавіка ў памяшканьні аб'яднаньня філятэлістаў, з ініцыятывы магілёўскай моладзевай грамадзкай арганізацыі, якая аб'ядноўвае патрыятычна настроеных юнакоў і дзяўчатаў, прайшла прэзэнтацыя праграмы сэмінараў школы "Гармонія сям'і" і менскага псыхоляга Іны Карніенка.

Спадарыня Іна распавяла пра ўжо, як яна назвала, абкатаныя сэмінары, якія праходзяць у Менску, і пра новы сэмінар, абкатка якога мае адбыцца ў хуткім часе ў сталіцы. Тэмы сэмінараў, са словаў спадарыні псыхоляга, даволі цікавыя. Зь іх могуць скарыстаць ня толькі маладыя, але нават і бацькі. Увесь цыкль складаюць пяць сэмінараў, якія доўжацца па два дні. Заняткі звычайна займаюць 4-5 гадзінаў у дзень. Самы вялікі па часу ды складанасьці сэмінар – "Творчае раскрыцьцё асобы".

Акрамя лекцыі была праведзеная таксама маленькая дэманстрацыя. Напрыклад: ці кожны з вас ведае, што па першае літары вашага імя можна багата чаго даведацца пра вас саміх. Ці па малюнку – "як вы сябе памятаеце ў дзяцінстве" – можна вызначыць, чаго вам не хапае ў жыцьці ці чаго вы баіцеся. І ўрэшце, ці ведаеце вы, што кожная назва, лічба ці сымбаль нясе вялікую колькасьць інфармацыі, якая толькі чакае, каб яе хто-небудзь узяў да ведама. "Шмат чаго мы не зрабілі б у жыцьці, ведаючы тое, што ведаем зараз", – прызналіся даўнія ўдзельнікі падобных сэмінараў. Можа, яны й маюць рацыю.

Вырашыўшы, што ад падобных сэмінараў ёсьць несумнеўная карысьць, дэмакратычныя моладзевыя суполкі Магілёва мяркуюць правесьці для сваіх сяброў шэраг сэмінараў з гэтай сэрыі ў бліжэйшым часе.

*Дзяніс НОВІКАЎ*

## Навінка ў Магілёве

Выйшаў першы ў гэтым годзе нумар часопісу "ARCHE". Тэма гэтага нумару – "ПАНСЛАВІЗМ: ДУМКА І ЗЛАЧЫНСТВЫ". Арыгінальнае аздабленьне, высокая якасьць паліграфіі, цікавая падборка матэрыялаў і, канешне ж, вядомыя і аўтарытэтныя аўтары.

Вам застаецца толькі пераканацца ў гэтым самім. Тэлефануўце 22-97-85 – спытацца Алеся Асіпцова, 25-57-85 – увечары, пасьля 21 гадзіны.

**Новыя відэа-касэты**

"Жывы гук" прадстаўляе дзьве новыя праграмы:

"Рок назаўжды" (Акустычны канцэрт NRM, супольны праект "Народны Альбом");

"FOLK назаўжды" (Сьвята, Сваякі, Крыві, Палац).

ARCHE
ДУМКА І ЗЛАЧЫНСТВЫ 1-2000
Апытаньне ARCHE: будучыня славянскай ідэі
МІЛАШ
Дастаеўскі і Сартр
ХАДАНОВІЧ
З чаго пачынаецца Жодзіна
ДРАШКАВІЧ
Нож

## Марнуйце вольны час з карысьцю!

**Адказы да крыжаванкі з "ТМ" №11**

*Па гарызанталі:* 2.Ганак. 6.Нырка. 7.Уступ. 9.Корак. 10.Зімоўе. 11.Крэйда. 12.Лаўка. 14.Збруя. 16.Краса. 19.Панарад. 20.Ложак. 21.Жніво. 22.Парасон. 24.Колас. 27.Багна. 29.Дырда. 30.Камора. 31.Лямеш. 32.Армяк. 34.Цымус. 35.Рымар. 36.Актыў.

*Па вэртыкалі:* 1.Варыўня. 2.Грак. 3.Накрыўка. 4.Крук. 5.Аўторак. 6.Намер. 8.Пайка. 12.Леапард. 13.Агарожа. 14.Зопак. 15.Улада. 17.Ронда. 18.Абора. 23.Атрамант. 25.Лямец. 26.Стрэмка. 27.Баламут. 28.Гумор. 32.Асца. 33.Кроў.



**Крыжаванка ад Антона Нізаўцава**

**Знайдзіце беларускія адпаведнікі наступных расейскіх слоў:**

*Па гарызанталі:* 1.Холка. 4.Частное (мат.). 7.Соблазн. 11.Захват. 14.Сокровище. 21.Грамм. 22.Иезуит. 23.Равновесие. 24.Тряпка. 25.Правительство. 27.Почва. 28.Отёк. 29.Обман, надувательство. 30.Лицо. 31.Войлок. 34.Аббат. 36.Ладья (шахм.). 37.Стон. 39.Состав. 41.Рожь. 42.Яйцо. 47.Дьяк. 49.Почта. 51.Вступление. 53.Корреспонденция, заметка. 55.Цель. 57.Фата, вуаль. 58.Икона. 59.Укоризна. 60.Мгла, марево, мелкий дождь. 62.Волынщик. 64.Волан. 66.Ангел. 68.Утро. 69.Внимание. 70.Арест. 71.Черта. 73.Охват. 75.Кофе. 76.Столетник, алоэ. 78.Мартышка. 80.Визг. 82.Дама. 87.Розыск. 88.Стихотворение. 89.Допрос. 91.Сырость, слякоть. 92.Сеяльщик. 95.Совет. 97.Отвращение. 98.Избиратель. 99.Щавель. 100.Тоска. 102.Отображение (в художественном произведении). 103.Охрана. 104.Рюмка. 105.Тонкое сукно. 106.Кожа.

*Па вэртыкалі:* 2.Аир. 3.Обмолот. 5.Сдвиг. 6.Калужница. 8.Оплеуха. 9.Красавец. 10.Жажда. 12.Огузок. 13.Раздумье. 15.Крупяной суп. 16.Ржавчина. 17.Сеятель. 18.Громкий стук. 19.Западня. 20.Деревянная нога. 21.Резинка. 26.Доска. 32.Майский жук. 33.Песчаный остров. 35.Сирень. 38.Порча. 40.Копна. 43.Палач. 44.Наводнение. 45.Толкатель. 46.Подстожье. 47.Мысль. 48.Колодка (сапожн.). 49.Хлеболёк. 50.Власть. 52.Широкий козырёк, шляпа с полями. 54.Сугроб. 55.Каменщик. 56.Ежевика. 61.Жатва. 63.Ствол, дуло. 64.Приманка, обольщение. 65.Следствие. 67.Обоняние. 72.Грусть. 73.Простор. 74.Привес. 75.Котомка. 77.Планка, плинтус. 79.Заём, долг. 81.Молоток. 82.Подлежащее. 83.Осока. 84.Берест. 85.Опорки. 86.Площадь. 89.Дыбы ("встать на дыбы"). 90.Вешка. 93.Беда, несчастье, нечистая сила. 94.Закал. 96.Оса. 101.Блажь.

Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта, заснаваная Магілёўскай гарадзкой асацыяцыяй «КОЛА СЯБРОЎ».

Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку за № 831.

Штотыднёвік

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.



Тэлефон: 31-04-15,
Тэл./факс: 22-97-82,
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у Магілёўскай абласной друкарні імя Я.Свярдлова. Замова 13. Наклад 2000 асобнікаў.